*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 460 • СТУДЗЕНЬ–ЛЮТЫ 1999 г.
Год выд. 49

**BIELARUS /** Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## «КРЫТЫЧНЫ ГОД ДЛЯ БЕЛАРУСІ»

Пад такім загалоўкам зьмешчаныя ў «Кангрэсавых Запісах» Кангрэсу ЗША (Congressional Record, February 9, 1999) заява кангрэсмэна Крыстафара Сьміта, старшыні кангрэсавай Камісіі па Бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе (КБСЭ), аб палажэньні ў Беларусі. У заяве сказана наступнае:

Палітыка прэзыдэнта Лукашэнкі, у выніку поўнага захопу ўлады ў прэзыдэнцкія рукі, давяла краіну да эканамічнага заняпаду. Урад праводзіць рэпрэсіі супраць іншадумцаў, грамадзянскіх арганізацыяў і незалежных СМІ, працягваючы гэтым парушаць свае забавязаньні перад Арганізацыяй па Бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе (АБСЭ). Курс на злучэньне з Расеяй пагражае сувэрэнітэту рэспублікі, з чаго вынлывае пагроза суседнім дзяржавам, асабліва Украіне. У заяве названы прозьвішчы рэпрэсіяваных, у тым ліку А. Шыдлоўскага.

Каб нармалізаваць палажэньне, кангрэсмэн Сьміт падаў шэраг рэкамэндацыяў: пачаць перамовы з апазыцыяй; даць апазыцыі доступ да ўрадавых СМІ і свабоду незалежным СМІ; правесьці свабодныя выбары паводле Канстытуцыі 1994 году.

Кангрэсмэн Сьміт заявіў, што ЗША і надалей прызнаюць легітымным толькі Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (старшыня Сымон Шарэцкі), а таксама, што дэмакратычная апазыцыя і няўрадавыя арганізацыі заслугоўваюць на матар'яльную і маральную дапамогу збоку Захаду.

## АБ'ЯВА

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне запрашае ўсіх жадаючых прыняць удзел у сьвяткаваньні 81 гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое адбудзецца 21 сакавіка а 2 гадзіны папаўдні па адрасу 140 2 Авеню ў Мангэтане (заля Украінскага Народнага Дому). У праграме ўрачыстая акадэмія, сьвяточны пачастунак, канцэрт Валі Пархоменка і сям'і Казак, лятарэя.

Уступ ад асобы 30 дал.

Просім загадзя паведаміць аб Вашай прысутнасьці па тэл. (718) 847-4123.

## 50-я ЎГОДКІ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

*(Даклад друкуецца ў скароце)*

Вернёмся на паўстагодзьдзя назад.

Пачалася тады так званая халодная вайна. Чэрчыль першы акрэсьліў і атакаваў «зялезную заслону». БССР — нашая зьняможаная бацькаўшчына, апынулася за двайной заслонай.

Францішак Аляхновіч адкрыў Гулаг нашмат раней за Салжаніцына сваім творам «У кіпцюрах ГПУ». Былі й сярод нас пакутнікі з Гулагу. Апроч таго, мы добра ведалі гісторыю нашай бацькаўшчыны, разьлічвалі на свае сілы, мусілі пачынаць з нуля.

28 лістапада 1948 г. у Таронта пастанавілі залажыць Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе. У часовую Ўправу ўвайшлі тры вэтэраны з брытанскай васьмой арміі, польскіх аддзелаў у Італіі: Кастусь Акула, Язэп Пітушка, Міхась Пашкевіч. Годам пазьней зрабілі агульны сход, апрабавалі статут, выбралі кантрольныя й выканаўчыя органы. Часапіс «Беларускі Эмігрант», што выходзіў у Ашаве зь лютага 1948 г., падрыхтаваў да гэтага грунт і згуртаваў ладную групу суродзічаў. На вялікі жаль, наша старая эміграцыя ў Канадзе ня ведала свае гісторыі, зацюканая-абаламучаная камуністычнай прапагандай, так ці інакш апынулася ва чужым ярме.

Наступным нашым заданьнем было ўтварэньне парафіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Каталікаў сярод нас было мала, а сьвятароў — ніводнага. Дзякуем Богу, зьявіўся між нас у 1950-м годзе наш суродзіч Мацукевіч. Пасьля навукі й пасьпяховага сканчэньня Ўкраінскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вініпэгу вярнуўся да нас. Чалавек гэты нязвычайна ахвярны, працаваў на пражыцьцё; сёньня Яму аддаём мы вялікую пашану: Ён — Першы ерарх БАПЦ Мітрапаліт Мікалай. Навокал парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага гуртуецца ўсё нашае рэлігійнае, грамадзкае жыцьцё.

Ужо ў 1952-м годзе ў Ніягара Фолс наладзілі мы сустрэчу моладзі зь беларусамі са Злучаных Штатаў. Янка Чарапук-Змагар, радны БНР, вітаў нас ад імя папярэдняй нацыянальнасьведамай і палітычна актыўнай беларускай дыяспары. Гэтая сустрэча залажыла аснову двухгадовых сустрэчаў беларусаў Паўночнае Амэрыкі, якіх адбылося ўжо 23.

Бальшыню сяброў Згуртаваньня Канады складала моладзь. Маладым жа трэба было вучыцца, здабываць прафэсіі, купляць маёмасьць, жаніцца ды замуж выходзіць. А як-жа тут бяз грошаў? Залажылі пры ЗБК Крэдыт Юньён, каб сябры маглі браць пазыкі ці ўкладалі сваё зробленае. Гэтая фінансавая ўстанова мела вялікі посьпех і скоры рост.

Ведамая аксіёма навучае, што наймагутнейшай сілай ёсьць ідэя, час якой настаў. Нас натхняла й клікала да ахвярнай дзейнасьці на працягу дзесяцігодзьдзяў на палітычнай ніве ідэя 25 Сакавіка, незалежнасьці БНР на ўжо сфармаваных дэмакратычных прынцыпах. Мы заўсёды падтрымвалі БНР. Магчыма, насамперш гэтым можна тлумачыць, што між беларускай дыяспарай у вольным сьвеце былі варожыя плыні і арганізацыі, што змагаліся з Радай і Ўрадам БНР на выгнаньні. Былі такія і ў Канадзе, але даўно яны зьніклі, адышлі ў нябыт. Ідэя БНР перамагла. Сёньня яна натхняе нашых суродзічаў на цэлым сьвеце, а перадусім у паняволенай Рэспубліцы Беларусь.

У 1968 г. у ваколіцы МакКэляр над возерам Манітавабінг сябры ЗБК купілі фарму — 260 акраў, далі ёй назоў «Слуцак». Зямлю падзялілі на дзялкі, а ладны кавалак падаравалі парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага. З аднаго боку вялізнае возера, з другога — пушча. У «Слуцку» сёньня ёсьць некалькі катэджаў.

Колькі маглі, мы памагалі нашым суродзічам у лягерах ДП у Нямеччыне, падтрымлівалі там прэсу, перадусім газэту «Бацькаўшчыну». Нашае выданьне спыніла свой выхад у 1954 г. Мы далучыліся да газэты «Беларус», дзе існавала рубрыка «Весткі з Канады». Сябры БІНІМу ладзілі разам з сябрамі з ЗША дзьве навуковыя канфэрэнцыі, у Кінгстане ў 1972 г. і ў аттаўскім унівэрсітэце ў 1975 г. У 1963 г. адзначылі сотыя ўгодкі паўстаньня Кастуся Каліноўскага, у 1967 — 450-я ўгодкі беларускага друку. У 1985 г. бралі ўдзел у Лёндане ў канфэрэнцыі, прысьвечанай 500-м угодкам нараджэньня Ф. Скарыны. У 1988 г. падчас 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі быў асьвечаны памятны Крыж для адзначэньня 1000 годзьдзя хрысьціянства й памяці пакутнікаў за волю й дзяржаўнасьць Беларусі. Ініцыятары таго помніка ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў каля Мідлянду, Вінцук і Раіса Жук-Грышкевіч, за той выдатны чын заслужылі ўдзячнасьць і

*Працяг на б. 2*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## 50-я ЎГОДКІ

*Працяг з б. 1*

пашану ад нас і беларускага народу.

У нашай працы, асабліва напачатку, было нялёгка, бо ня толькі канадыйскія ўрады і ўстановы, а пагатове й народ амаль нічога ня ведаў пра беларусаў, нашае змаганьне за незалежнасьць. Таму змагаючыся яшчэ з маскоўска-бальшавіцкай прапагандай, што была тут укаранілася падчас вайны, кожнаму з нас трэба было старацца, каб запісалі нас беларусамі ў дакумантах. У агульнай статыстыцы краіны бальшыня нашых суродзічаў такім чынам трапіла да прагавітых суседзяў — у палякі ці маскалі.

Мы належалі да АБН, супрацоўнічалі з усімі паняволенымі народамі супраць Маскоўшчыны за вызваленьне нашай бацькаўшчыны. Згадаем пра некаторыя дэманстрацыі. У 1950 г. у Таронта мясцовыя камуністы ладзілі вялізную канфэрэнцыю «за мір». На канфэрэнцыю сьпяшаўся чырвоны сьвятар англіканскай царквы Гаўлет Джансан. Мы выйшлі разам з усімі прадстаўнікамі паняволеных імпэрыяй зла народаў, шчыльна абкружылі цэнтар гораду й заблякавалі ўваходы ў Мэсы Гол. Назаўтра таронцкая газэта «Тэлеграм» на першай бачыне вялізьнымі літарамі паведамляла пра «вайну на кангрэсе за мір», якая спыніла ўвесь рух у цэнтры гораду.

Ніхто з нас не атрымліваў ніякіх грошаў за працу на грамадзкай ці культурна-асьветнай ніве. За цяжка заробленыя грошы нашых парафіянаў і сяброў ЗБК ужо ў пачатку існаваньня арганізацыі сабралі грошы й набылі звычайны дом у Таронта, які потым прадалі й купілі сёньняшні БРГЦ, дзе зьбіраемся, молімся й працуем. Кожны год на 25 Сакавіка наш бел-чырвона-белы сьцяг лунае ля таронцкай ратушы. Мясцовыя ненавісьнікі БНР — пераважна з так званай Фэдэрацыі Рускіх Канадцаў, што было гнязьдом маскоўскіх цівуноў, пратэставалі супраць ушаноўваньня горадам угодкаў незалежнасьці БНР. Ім не ўдалося дабіцца посьпеху ў Гарадзкой управе. Прывід аграмаднага савецкага шпіёнскага гнязда, якое зараз-ж пасьля Другой сусьветнай вайны адкрыў клерк Ігар Гузэнка, утрываліўся ў памяці адказных нашых канадыйскіх палітыкаў.

За гэты час вырасла цэлая сямейка арганізацыяў, што працавалі ў розных галінах беларуска-канадыйскага жыцьця. Вось некаторыя зь іх: Згуртаваньне Беларусаў Канады, Беларуская Крэдыт Юньён, Выдавецкі Фонд «Беларускага Эмігранта», Выдавецкі Мастацкі Клюб «Пагоня», Выдавецтва падручнікаў, што выдала два падручнікі беларускае мовы Валентыны Пашкевіч пад рэдактарствам Антона Адамовіча, Лектарат Беларусаведы пры Таронцкім Унівэрсытэце, Згуртаваньне Беларускіх Жанчын, аддзел Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе, Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў і часапіс «Зважай», Фонд Натальлі Арсеньневай, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, прадстаўніцтва ў Этнічнай Радзе Канады, Канадыйскі Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, Таронцкая школа беларускае мовы для дзяцей, Сэктар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў сабраў звыш $1200 на будову надмагільнага помніка Алесю Гаруну на Ракавіцкіх могілках у Кракаве. Помнік з чырвонага граніту нашыя беластоцкія суродзічы зрабілі й паставілі 30 чэрвеня 1988 г. Наш камітэт на цэрымонію ў Кракаў не запрасілі.

Чарнобыльская аварыя абрынулася зьнішчальным ударам на паўдзённа-усходнюю Беларусь. Наша беларуская грамада ў Канадзе залажыла Фонд помачы ахвярам Чарнобыля, зьбірала грошы, падключыла вялікую колькасьць канадыйцаў на помач дзеткам зь Беларусі, якія прыяжджаюць сюды, каб хоць троху ачуняць ад насьледкаў Чарнобыля. З удзелам іншых, у гэтай галіне шмат зрабілі Івонка і Янка Сурвіллы, Барыс Рагуля, Мікола Ганько.

Прыгадваецца першы візыт лідараў БНФ: Пазьняка, Заблоцкага, Баршчэўскага. Яны — асабліва Зянон Пазьняк, што адкрыў сьвету каля чвэрці мільёнаў ахвяраў, могільнік нявінных суродзічаў у Курапатах пад Менскам — зьявіліся між нас зарніцай новай сьветлай пары і аднаўленьня дзяржаўнасьці Беларусі.

Некаторым з нас пашанцавала быць у Беларусі, якая была аднавіла незалежнасьць зь бел-чырвона-белым сьцягам і з гістарычнай Пагоняй. Спадзяваліся, што нарэшце Рэспубліка Беларусь сапраўды займе «свой пачэсны пасад між народамі». Але пачварныя маскоўскія цемрашалы зноў абрынуліся на зруйнаваную Чарнобылем дзяржаву.

Пашана й падзяка за працу і ахвярнасьць у ЗБК і БАПЦ парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта заслужылі Першы Ярарх БАПЦ архіяпіскап Мікалай, айцец Юры й матушка Вольга, Марта й Пятро Слаўко, Барыс Кірка й Вера Радэк, Валентын і Натальля Навіцкая, Мікола й Марыя Ганько, Антон Маркевіч, Баляслаў Лішчонак, Цімафей Салановіч, Нічыпар й Ванда Сільвановіч, Вінцук і Раіса Жук-Грышкевіч, Кастусь Каранеўскі, Мікола Пракопчык, Янка й Надзя Баран, Вячаслаў Касьцюкевіч, Барыс і Людміла Рагуля, Мечыслаў Рачыцкі, Мікола Арцюх, Мікола Шуст, Алесь Грыцук, Арсень Монід, Янка і Івонка Сурвілла. Суродзічам, што прыбылі да нас апошнімі гадамі, жадаем добрага здароўя й посьпехаў у жыцьці ў Канадзе й працы для дабра гэтай краіны й нашай яшчэ сёньня запрыгоненай бацькаўшчыны.

Маю пачэсны абавязак прысьвяціць больш увагі нашай даўгадовай супрацоўніцы, цяпер Старшыні Рады БНР, Івонцы Сурвілле. Паколькі памятаю, яна разам са сваім мужам Янкам зьявілася ў Канадзе напрыканцы 60х-пачатку 70х гадоў і цэлы час жыла ў Аттаве. Івонка — дачка ведамага грамадзкага дзеяча, мастака Уладзімера і Эвэліны Шыманцоў, нарадзілася ў Беларусі ў 1936 г., здабывала навуку ў Парыжы. З мужам Янкам у Мадрыдзе вялі беларускамоўную праграму, прызначаную для перадачаў на бацькаўшчыну ў гішпанскім нацыянальным радыё. Івонка і Янка адразу далучыліся да нашай арганізацыі. Яны мелі за сабою ужо значны стаж працы ў грамадзкіх галінах беларускай дыяспары, валодалі мовамі ўсіх заходніх дэмакратычных дзяржаваў. Менавіта ў Канадзе, дзе ім даў працу ўрад, яны сталіся апорай і падтрымкай. У розныя гады Івонка была старшынём аддзелу БІНІМу, Янка — старшынём аддзелу ЗБК у Аттаве, адным зь ініцыятараў і старшынём Канадыйскага Фонду для беларускіх ахвяраў Чарнобыля. Апроч усяго гэтага, Івонка — і мастачка-партрэтыст, брала ўдзел ня толькі ў навуковых канфэрэнцыях, а і ў мастацкіх выставах. Івонка і Янка выгадавалі й дзьвюх выдатных дачушак. Ім за грамадзкую, палітычную і іншыя працы й здабыткі ад нас вялікая пашана й падзяка, а Янку — вечная памяць!

Імпэрыя зла развалілася, наша бацькаўшчына аднавіла незалежнасьць. Але маскалі падрыхтавалі Лукашэнку. Вэртыкальная Вандэя адыйдзе ў нябыт, імпэрыю зла адбудаваць не ўдасца. Беларускі народ здабудзе сапраўдную незалежнасьць і дабрабыт, адновіць культуру. Гэта зойме час.

Дык скіруем усе нашыя сілы на аб'яднаньне, каб асягнуць гэтую мэту. Пакінем рознае шкоднае палітыканства, сканцэнтруемся на галоўным. Няма між намі сьвятых ці непамыльных, бо ўсе мы грэшнікі. Але, зазірнуўшы на 50 гадоў назад, ацаніўшы тое, што мы асягнулі тут на канадыйскай зямлі, мусім верыць, што ўдалося гэта таму, што мы жылі верай у Госпада, дабрачыннасьцю для сваіх і чужых, годнасьцю нашага беларускага характару, патрыятызму нашага, палітычнай ідэалёгіяй БНР ды ахвярнай нясьпыннай працай. Вось і пажадаем адзін аднаму старацца аб'яднаць усіх вакол вялікае ідэі — аднаўленьня сапраўднай дэмакратычнай беларускай дзяржавы! Бо зноў жа ня трэба забываць словы нашага вялікага прарока:

*І прыйдзе новых пакаленьняў*
*На наша месца грамада*
*Судзіці суд, ці мы сумленна жыцьцё*
*прайшлі!*

Жыве Беларусь!

**Кастусь Акула**

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ



## ГАЙЛАНД ПАРК

Па традыцыі стараньнем аддзелу Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрсі было наладжана ўрачыстае адзначэньне геройскага чыну Слуцкім паўстанцам. У суботу 21 лістапада прадстаўнікі арганізацыі Беларускіх Вэтэранаў зложылі вянкі каля помніка героям. У нядзелю 22 лістпада настаяцель парахвіі Божай Маці Жыровіцкай мітр. пратаерэй а. Васіль Андрэюк служыў пасьля Божае Службы паніхіду па тых, што змагаліся за свабоду бацькаўшчыны. Сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам маладога рэгента Генадзя Дубягі, стаяла ў складзе сп. Янкі Азаркі, Адольфа Суботы й Віктара Дубягі.

Акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага Чыну, была ладжаная ў царкоўнай залі. Распачаў яе малітвай а. Васіль. Старшыня аддзелу БАЗА, Нью Джэрсі сп. Юрка Азарка прывітаў прысутных і ў кароткай прамове прадставіў значаньне паўстаньня ў мінулым і сучасным. Сяргей Навумчык у сваім дакладзе паінфармаваў аб сёньняшнім палажэньні на Беларусі. Р. Кардонскі, госьць з Канады, прывітаў прысутных і сказаў кароткае слова. Урачыстасьць была закончана сьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Янка Бяразіна**

# ЛЕЎ АКІНШЭВІЧ
## 1898-1980

*Дзе канчаецца сьцяга,*
*там сьцеражэ цябе сьмерць,*
*кажа стэпавае прыслоўе.*
*Л. Вароніч. Праклятыя стэп*

Хоць жыцьцёвыя варункі ад маленства зьвязалі Л. Акіншэвіча зь Кіевам, з Украінай, з навуковай працай ва Ўкраінскай Акадэміяй Навук, праз усё жыцьцё ён захаваў вострае адчуваньне сябе беларусам. У гады рэвалюцыі ды ўкраінскае ўлады ў Кіеве Л. Акіншэвіч быў актыўным сябрам кіеўскай беларускай арганізацыі, знаходзячыся ў ейным кіраўніцтве, меў сувязь з кіеўскім консулятам БНР.

Па заканчэньні юрыдычнага факультэту Кіеўскага Ўнівэрсытэту разам з навуковай працай пры Ўкраінскай Акадэміяй Навук ды першых публікацыяў на тэмы зь гісторыі Ўкраіны, ужо ад 1925 г. у часапісе «Полымя» публікуюцца ягоныя рэцэнзіі і артыкулы на тэмы зь гісторыі Беларусі. У гэтым часапісе ў 1927 г. было апублікаванае першае значнае дасьледваньне — «Казацтва на Беларусі». Яно зьвярнула на сябе ўвагу беларускіх гісторыкаў шырокім выкарыстаньнем архіўных матар'ялаў. У працы ішла гаворка пра беларускія казацкія фармацыі ў часе маскоўскае вайны 1554-1567 г. цара Аляксея Міхайлавіча, пра магілёўскі казацкі «Беларускі полк» Канстантына Паклонскага, пра беларускі Чавускі полк. Пасьля гэтай працы былі надрукаваныя артыкулы «Да пытаньня пра беларускую юрыдычную тэрміналёгію», беларускае казацтва ва ўкраінскай гістарыяграфіі, пра «Казацкасялянскія войны на Беларусі ў 17 ст. у характарыстыцы М. Грушэўскага».

Працы былі заўважаны і ацэненыя беларускімі гісторыкамі. Пры канцы 20-х г. С. Некрашэвіч нават радзіў Акіншэвічу пераехаць у Менск і пераняць катэдру гісторыі беларускага права.

Пад час сваіх камандзіровак у архівы Масквы, Л. Акіншэвіч расшукаў даволі вялікі пласт невядомых навукоўцам актаў і дакумантаў, зьвязаных з гісторыяй беларускага казацтва. Асабліва ўразілі маладога дасьледчыка дакуманты пра народную антымаскоўскую партызанку на Беларусі ў часе ейнай акупацыі войскамі расейскага цара Аляксея Міхайлавіча. Як вынікала з гэтых дакумэнтаў, асноўная маса партызанаў складалася зь сялян, былі ў ёй і мяшчане ды шляхта. У Магілёве ў 1561 г. выбухла й паўстаньне пад кіраўніцтвам бурмістра Левановіча. Маскоўскі гарнізон быў выбіты, а царскія ваяводы ўзятыя ў палон.

Усьведамляючы важкасьць гэтых недрукаваных матар'ялаў, Л. Акіншэвіч у 1930 г. падпісаў у Менску дамову зь Дзяржаўным Выдавецтвам, дзе забавязваўся падрыхтаваць да друку два тамы працы «Казацтва на Беларусі»: тэксты і іхны гістарычны аналіз. Але ён насьпеў толькі падрыхтаваць да друку тэксты ды напісаць першыя разьдзелы працы, бо неўзабаве ўлады распачалі перасьлед «ворага народу» — «сувязнога паміж украінскімі й беларускімі нацыяналістамі». Усе паперы загінулі ў першыя месяцы вайны, калі прафэсар жыў у Смаленску.

Калі даваенныя працы Л. Акіншэвіча насілі пераважна архіўна-дасьледны характар, абапіраліся на архіўныя матар'ялы, дык публікацыі паваеннага часу былі з галіны бібліяграфіі, гістарычнае літаратуры, а таксама філязофіі гісторыі.

У 1948 г. у часапісе «Сакавік», што выдаваўся ў Нямеччыне, Л. Акіншэвіч апублікаваў большы нарыс на тэму казацтва на Беларусі. У 1952 г. у «Запісах БІНІМ» зьявілася ягоная важная праца пад назваю «Парлямэнт беларускае зямлі» — спроба вызначыць асноўныя вехі разьвіцьця й галоўныя прыкметы структуры парлямэнтарна-заканадаўчае сыстэмы на беларускай зямлі. Спроба дадзеная на гістарычнам фоне і ў параўнаньні з эвалюцыяй парлямэнтарных сыстэмаў у Англіі, Францыі, Нямеччыне, а таксама ў суседняй Польшчы ды Масковіі.

Другая значная праца «Пра цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу» была апублікаваная таксама ў «Запісах» у 1953 г. Напісаная яна была ў вялікай меры пад уплывам гістарычна-філязафічных канцэпцыяў Арнольда Тойнбі пра цыклі гісторыі чалавецтва й культурна-цывілізацыйныя камплексы. На думку Л. Акіншэвіча, на пачатках свае гісторыі у X-XIII ст., беларускі народ бясспрэчна знаходзіўся ў абсягу ўплываў гэтак званага «славяна-візантыйскага», а не заходняга культурна-цывілізацыйнага цыклю. У часы Вялікага Княства Літоўскага на беларускіх землях адбываецца працэс культурнага азаходненьня сацыяльна вышэйшых пластоў народу, але не пранікае ў народныя масы, таму не адбываецца гарманічнае сынтэзу двух культураў. Пытаньне стварэньня нейкае адналітнае цывілізацыйнае базы стала перад беларускім народам і ў пару нацыянальнага адраджэньня на пачатку XX ст. Як выглядае, падобнае пытаньне актуальна й сёньня.

У 1953 г. была апублікаваная ў ангельскай мове праца Л. Акіншэвіча — "The Law of Grand Dutchy of Lithuania; background and bibliography" — кароткі агляд гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага ды літаратуры пра яго, а таксама некалькі іншых дасьледваньняў у ангельскай мове. У 1955 г. у мюнхенскім «Беларускім зборніку» быў апублікаваны крытычны агляд датычна да гісторыі Беларусі савецкае літаратуры (нарыс быў выдадзены й па-ангельску) «Гісторыя Беларусі ў працах савецкае гістарыяграфіі расейскаю моваю», дзе аўтар пісаў: «Беларускай гістарычнай навукі ў наш час на савецкай тэрыторыі ўжо зусім няма, а тое, што існуе, можа быць названа хутчэй расейскай савецкай гістарыяграфіяй у беларускай мове. Магчыма ісьці яшчэ далей і сказаць, што ў глыбіні і ў інтэнсыўнасьці новага расейскага нацыяналізму цяперашняя гістарыяграфія ў беларускай мове на савецкай тэрыторыі далёка пераўышае сваёй тэндэнцыйнасьцяй самую расейскую савецкую гістарычную навуку».

Трэба яшчэ ўспомніць і пра літаратурную спадчыну Л. Акіншэвіча: надрукаваны ў 1948 г. у «Сакавіку» пад псэўданімам Л. Вароніч фрагмэнт аповесьці «Праклятыя стэп».

Л. Акіншэвіч быў сябрам БІНІМу ад часу ягонага заснаваньня ў 1951 г., у складзе першае ўправы быў віцэ-старшынём. Ён пераказаў Інстытуту сваю бібліятэку й пераслаў бібліяграфію апублікаваных працаў. З усіх 101 пазыцыяў гэтае бібліяграфіі, больш за трэціну сваім зьместам датычныя пытаньняў нашае гісторыі, 27 былі выдрукаваныя ў беларускай мове.

**Л.Ю.**

## АЎСТРАЛІЯ

Кастрычнік і лістапад сярод беларускага грамадзтва быў вельмі плённым на падзеі. Беларусы Мэльбурну, а менавіта Фэдэральная Рада і яе Беларускі Цэнтральны Камітэт былі запрошаныя на розныя імпрэзы, якія ладзіў Этнічны Камітэт Шматкультур'я. Прэзыдэнт Камітэту ў Вікторыі сп. Стэфан Раманіў, украінец, вельмі сымпатычна паставіўся да беларускай групы, якая складалася зь дзесяці асобаў.

4 лістапада сп-ы А. Груша, А. Шнэк былі запрошаныя мэрам Мэльбурну, прадстаўнікамі арганізацыйнага камітэту Алімпійскіх гульняў 2000 году на сустрэчу, падчас якой закраналіся пытаньні беларускіх радыёперадачаў.

22 лістапада Мэльбурнская БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў ладзіла сваё парафіяльнае сьвята — 17-ыя ўгодкі адпраўленьня ў сваім будынку Божых Службаў. Быў адслужаны агульны малебен. Хор «Каліна» сьпяваў беларускія песьні. Айцу Аляксандру належыцца вялікая падзяка за яго адданую працу.

16 сьнежня грамадзтва ладзіла 78-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля Сьвятой Літургіі настаяцель мясцовай БАПЦ пратапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі нагадаў прысутным пра слаўнае нашае мінулае ды зьвярнуў увагу на тое, што багата хто забываецца на ўсё свае роднае ды балючае для нас, а цешацца уласным дабрабытам.

Затым ў царкоўнай залі старшыня БЦК сп. Паўла Гуз адчыніў Урачыстую Акадэмію. Прывітаўшы прысутных, папрасіў хвілінай цішыні ўшанаваць усіх ведамых і няведамых змагароў ды прасьпяваць «Сьпі пад курганам герояў». Потым ён зачытаў надасланыя сьвяточныя прывітаньні ад Г. Сурмач і Р. Гарэцкага (Згуртаваньне Беларусаў Сьвету). Р. Жук-Грышкевіч, М. Раецкага (Беларускае Аб'яднаньне Заходняй Аўстраліі), В. Кавалеўскага (Беларускае Аб'яднаньне Паўдзённай Аўстраліі), П. Гуза (Выканаўчы Камітэт Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі).

Сп. А. Шнэк прачытаў даклад, у якім распавёў пра падзеі, якія адбываліся 78 гадоў таму. Аўген Груша дэклямаваў верш «Волат». Вера Шайпак чытала верш «Пад Бел-чырвона-белым сьцягам» Ю. Карэйвы, П. Гуз — верш Алеся Змагара «За Бацькаўшчыну».

Потым Алег Шнэк прачытаў артыкул з газэты «Народная Воля», дзе апазыцыя зварачаецца да А. Лукашэнкі ў пошуках агульнай мовы. Ян Барысевіч, бацька якога быў удзельнікам Слуцкага паўстаньня, у вельмі вострай форме выказаў сваю думку адносна сёньняшняга кіраўніцтва Беларусі.

Акадэмія скончылася сьпевам гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Паўлюк Дуброўскі**

## ЧЫКАГА

Ужо 21 год запар, як Беларускі Кардынацыйны Камітэт у Чыкага бярэ ўдзел у Калядным Фэстывалі ў Музэі Навукі і Індустрыі. Традыцыя, як кажуць, ёсьць глыбока закаранелым пачуцьцём абавязку захаваць свае апрычоныя звычаі. Нягледзячы на старэйшы век тых, што пачалі ўпершыню рыхтаваць арнамэнты на ялінку ды прыбіраць яе з году ў год, і надалей пачуваюцца да гэтага абавязку. Спакваля далучаецца й маладое пакаленьне, дапамагаючы правядзеньню імпрэзы.

Нашая ялінка была нарыхтавана 7 лістапада летась талакой, у якой прыклалі свае сілы і ўмельства сп-ні Вера Рамук, Мюры Андэрсон са сваёй дачкой Тыфані, сп-ы Нікадзім Жызьнеўскі, Тамі Кугура, Джон Кэр. Калядную мастацкую праграму падрыхтавалі сп-ня Ірэна Бажко, жонка сьвятара Дзімітрыя Бажко з праваслаўнай царквы сьв. Юрага ў Чыкага. Група дзяцей выканала 21-га лістапада колькі беларускіх песьняў і танцаў. Калядны Фэстываль законьўся 3-га студзеня.

**Др. Вітаўт Рамук**

## РЫЧМАНД ГІЛ

У нядзелю 29 лістапада у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага беларуская грамада адзначала 78-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Калі скончылася Літургія ў царкве, айцец Грэгары гаварыў прысутным аб Слуцкім паўстаньні й сёньняшнім становішчы на Беларусі ды зьвярнуўся да ўсіх прысутных з просьбаю маліць Бога, каб Ён паслаў беларускаму народу сілу й надзею на лепшае заўтра. Пасьля быў адслужаны малебен за беларускі народ. Вэтэраны стаялі ў царкве зь сьцягамі. А. Грэгары закончыў малебен прагалошаньнем «Многія лета» беларускаму народу й "Вечная памяць" палеглым змагарам Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры быў ладжаны сяброўскі пачастунак.

**Васіль Шчэцька**

## ЛЁНДАН

Дзіцячы фонд «Сакавік», вядомы сваёй дабрачыннай дзейнасьцю, ажыцьцявіў сваю чарговую акцыю з дапамогай Брытыйскіх дабрачынных установаў і беларусаў Вялікай Брытаніі. На гэты раз то была адукацыйная праграма: дзеці з беларускіх школаў маглі некаторы час павучыцца ў школах Валіі. Апошні тыдзень свайго побыту дзеці правялі ў «беларускай вёсцы» ў Лёндане, дзе мелі магчымасьць пазнаёміцца з Беларускай бібліятэкай і музэем, а таксама культурным ды рэлігійным жыцьцём тутэйшых беларусаў.

Старшыня фонду Марыя Міцкевіч адзначыла, што пад час побыту былі распрацаваныя новыя гуманітарныя праекты — дапамога беларускім дзіцячым дамам.

## СЬВ. ПАМ. КАСТУСЬ ЗАГОНАК
## (13.6.1922 – 7.11.1998)

Нарадзіўся ў заможнай селянскай сям'і на памежжы Беларусі із Латвіяй у трыкутніку гарадоў: Полацак, Даўгаўпілс і Глыбокае. Гэта тэрыторыя уваходзіла да 1939 г. у склад Польшчы, пасьля далучаная да Віцебскай вобласьці.

У 1944 г. пры наступе Чырвонае Арміі быў эвакуваны у Нямеччыну. Працаваў у фабрыцы, асвоіў такарку ды із добрым фахам у 1949 г. эміграваў у ЗША. Ня мяняючы месца працы, амаль 50 гадоў, працаваў токарам — стаў заможным, сярэдняга калібру, амэрыканцам.

Ніколі не забываўся пра Беларусь, кожнага году быў ахвярным із дарам для «25-га Сакавіка», скарбнікам якога і цяпер працуець яго родзіч Віталі Кажан.

Сьв. пам. Кастусь быў адным із трох асобаў, хто паднісаў дакумэнт пакліканьня да жыцьця Беларускай праваслаўнай парафіі «Сьв. Юрыя» у Чыкага, якая 22-га лістапада адсьвяткавала свой 40-ка гадовы Юбілей.

Паховіны правяло пахароннае бюро Музыка і Сын, адкуль цела сьв. пам. Кастуся было перавезена у Беларускую праваслаўную царкву «Сьв. Юрыя». Пасьля адпяваньня паніхіды а. Дзімітрыям у асысьце а. Алега Мірановіча цела было аддана зямлі на праваслаўным магільніку у прыгарадзе Ельмвуд парк.

У вялікім смутку застаўся сын Юры із жонкай Паўлай і двухгадовай унучкай Бріанай, родзічы ў ЗША і ў Беларусі. 13-га сьнежаня у 40 дзень сьмерці сям'я пакойнага адправіла паніхіду.

На трапезе, дзе добрымі славамі ўспаміналі сьв. памяці адышоўшага ад нас мужа, бацьку і добрай душы чалавека, прысутнічала каля 60 асобаў.

Вечная памяць, дарагі сябра!

**Мікалай Латушкін**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

*И то велми страшная шкода — гологуздые кури ховати, их достатком варити и инные пташки смажити. Торты тые цинамоном, микгдалами цукровати. А за моей памети присмаков тых не бывало. Добрая была гуска з грибкамі, качка з перчиком, печонка з цыбулею или чосныком. А коли на перепышныя достатки — каша рижовая з шафранам. Вина венгерского не заживали перед тым. Малмазию скромно пивали, медок и горилочку любали, але грошы под достатком мевали.*

**«Прамова Мялешкі», XVII ст.**

### Гусак з грыбамі ад Мялешкі

Гусака — пажадана маладога — пачысьціць, пакроіць на кавалкі, пакласьці ў ваду з морквою, дадаўшы пятрушку, сушаныя грыбкі (калі ёсьць — лепш за ўсё нашыя баравічкі), пасаліць, папярчыць — і варыць, ажно пакуль ня будзе мяккі. Потым распусьціць лыжку сьметанковага масла або тлушчу або алею, падрумяніць у ім лыжку мукі, усё перамяшаць, дадаць трошкі сьмятаны, паўкварты бульёну, у якім варыўся гусак, ўсё добра старанна перамяшаць, загатаваць, працадзіць, пакласьці пакрышаныя грыбы й заліць гэтым гусака адразу перад падаваньнем на стол.

Морква, пятрушка, грыбы, алей — прапорцыі цалкам залежаць ад густу кухара.

Гэтая страва — выдатная замена індыка на Дзень Удзячнасьці ў лістападзе.

## ІНТЭРВІЮ З МІХАІЛАМ ЧЫГІРОМ

Міхаіл Чыгір — былы прэм'ер-міністар, вяртаецца. Вяртаецца гучна і дэманстратыўна, прапанаваўшы сябе на месца першай асобы ў краіне. Адным крокам Міхаіл Чыгір стаў наперадзе ўсёй беларускай апазыцыі. Ацэнкі гэтага ягонага ўчынку палярныя. У сваім студзеньскім інтэрвію «Белорусской газете» Міхаіл Чыгір сказаў: «Пра якую стабільнасьць разважае Лукашэнка, калі ў маёй вёсцы, у маім родным Капыльскім раёне, у сялянаў парваліся апошнія боты, а на што купіць новыя, яны ня ведаюць...». Нас, у сваю чаргу, зацікавіла, каму кандыдат у прэзыдэнты Беларусі аддае перавагу ў беларускай культуры.

**«НН»:** *З часамі Лукашэнкі беларуская мова падлягае сьведамай дыскрэдытацыі і дыскрымінацыі. Колькасьць беларускіх школаў, выданьне беларускіх кніг сьцяліся да памераў меншых, чым нават за савецкім часам. Што прапанавалі бы вы?*

**М. Чыгір:** Я думаю, што ня можа быць беларускай дзяржавы безь беларускай мовы! Ужо шмат было зроблена дзеля адраджэньня мовы: пашыралася выкладаньне ў школах, перакладаліся дакумэнты. Той Закон аб мове, які быў да Лукашэнкі, быў нармальны. На яго падставе і трэба было рухацца далей. Шмат добрага было зроблена... Але сёньня мы ўсё згубілі. Трэба будзе вяртацца на тыя ранейшыя пазыцыі, вяртаць на сваё месца нашу мову. Для мяне гэта прынцыпова.

**«НН»:** *Сёньня ў Беларусі ня толькі мова, але й помнікі архітэктуры і культуры заходзяцца ў катастрафічным стане. Патрэбнае апэратыўнае ўмяшаньне, каб захаваць для нашчадкаў хоць нешта...*

**«НН»:** *А якая пры Вашым магчымым прэзідэнцтве будзе дзяржаўная сымболіка?*

**М. Чыгір:** Яна ж ня будзе «маёй». Я асабіста быў рашучым праціўнікам сумнавядомага рэфэрэндуму. Цяпер жа папярэднюю Канстытуцыю аўтаматычна ня вернуць. Дарэчы, менавіта з-за яе палажэньняў мы маем тое, што маем. Усё павінен вырашаць Вярхоўны Савет. Пытаньні пра сьцяг і пра герб таксама. Абавязак прэзыдэнта — выконваць закон. Калі вярнецца папярэдняя сымболіка — я ня супраць. Аднак спачатку няхай сам народ абярэ сабе законны парлямэнт.

**Гутарыў Сяргей Харэўскі**

***Скарочаны перадрук з газэты «Наша Ніва»***

## НОВЫЯ КНІГІ

У выдавецтве **University Press of America** выходзіць у сакавіку месяцы у ангельскай мове кніга Вітаўта Кіпеля **"Belarusans in the United States"**.

Кніга (800 старонак, ілюстрацыі) прасочвае гісторыю эміграцыі беларусаў у ЗША ад пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага да нашага часу. Праца суправаджаецца гістарычным уступам ды аналізам прычынаў эміграцыі розных хваляў. Даецца дэталёвы аналіз арганізацыйнага й рэлігійна-грамадзкага жыцьця беларусаў-амэрыканцаў, разгляд друку, дзейнасьці, зацікаўленьняў беларуска-амэрыканскае грамады.

Шмат увагі прысьвечана дасьледаваньню прычынаў малога веданьня аб беларускай групе шырокага грамадзтва, аналізам перапісаў. У кнізе сотні прозьвішчаў, паказьнікі, багатая бібліяграфія.

Кніга можа быць даведнікам пра Беларускую Амэрыку як амэрыканцам, гэтак і беларусам.

Кошт кнігі ў кнігарнях будзе $56.00. Калі замаўляць праз БІНІМ – $45.00. Замовы дасылаць на адрас: **BINIM, 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J. 07070**.

## АХВЯРАВАНЬНІ

### На Выдавецкі Фонд «Беларуса»

| | |
|---|---|
| В. Зайка | 20 |
| А. Тальянскі | 20 |
| З. Левіт | 20 |
| В. Бартуль | 20 |
| В. Якімовіч | 10 |
| Ул. Градун | 10 |
| І. Федарынчык | 20 |
| Т. Піліповіч | 20 |
| У. Фанская | 10 |
| Р. Пракопчык | 20 |
| Р. Кардонскі | 40 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| В. Дворняк | 10 |
| К. Верабей | 20 |
| С. Туравец | 10 |
| І. Мікалайчык | 20 |
| А. Міцкевіч | 20 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| В. Кіпель | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| Л. Юрэвіч | 25 |
| М. Клакоцкі | 20 |
| А. Шукелойц | 20 |
| Р. Галяк у памяць І. Аўдзея | 25 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| В. Салавей | 15 |
| К. і М. Верабей | 20 |
| Н. Міцкевіч-Касмовіч | 20 |
| Н. і І. Александар | 25 |
| Н. і В. Сьнежка | 25 |
| В. і М. Эфремнкаў | 30 |
| Н. Дудар | 35 |
| Н. Грэбень | 40 |
| А. Мамецка кан. дал. | 45 |
| Л. Біленіс і К. Пануцэвіч | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 130 |
| А. Няпейн | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Л. Норык | 70 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| І. Аўдзей | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| Е. Літаровіч у памяць Івана Аўдзея | 50 |
| Э. Птушка | 50 |
| Б. Русак замік кветак на магілу П. Кулеша | 50 |
| Б. Русак замік кветак на магілу Л. Літаровіча | 50 |
| Е. Завістовіч | 40 |
| Н. Ігнатовіч | 30 |
| Ю. Наумчык | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| І. Шыбут | 30 |
| С. Шыян | 30 |
| М. Абрамчык | 100 |
| А. Моніd | 100 |
| М. Дземковіч | 50 |
| В. Кажан | 50 |
| Н. Касьцюк | 50 |
| К. Мірановіч | 30 |
| А. Субота | 30 |
| У. Траскевіч | 30 |
| Л. Стагановіч | 20 |

### Атрымана з Прагі

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | 50 |
| Б. Андрусышын | 50 |
| К. Бандарук | 50 |
| С. Шупа | 50 |
| А. Лукашук | 50 |
| М. Іваноў | 50 |
| С. Сокалаў | 50 |
| В. Цыганкоў | 50 |
| А. Радкевіч | 20 |

### Фінансавая справаздача за лістапад-сьнежань 1998 г.

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| Л. Трусэвіч | 75 |
| В. Кажан | 50 |
| О. Канарчук | 50 |
| П. Алексы | 40 |
| С. Янкоўскі | 40 |
| Л. Бакуновіч | 30 |
| В. Каракулько | 30 |
| Н. Кіт | 30 |
| А. Клімовіч | 30 |
| Е. Маркоўскі | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| І. Шыбут | 30 |
| В. Заморскі | 20 |

### ПОШУКІ СВАЯКОЎ

Пляменьнік Мікалай шукае свайго дзядзьку **Забаўскага Віталя Паўлавіча**, які пражываў у гарадку Турэц. Ведама, што пасьля вайны ён жыў у Галяндыі, а пазьней у Англіі. Хто ведае што-небудзь пра Забаўскага Віталя Паўлавіча дайце, калі ласка, вестку на адрас:

Vasil Scecka
104-29 Atlantic Ave.
Richmond Hill, NY 11418